**Наум Прыгаворка.**

*(Вінцук Дунін-Марцінкевіч).*

# Залёты.

*Сьмяхотная штука у 3-х дзеях.*
(Напісана у Люцынцэ 8-го сьнежня 1870 году).
(Глядзі № 11).

## Дзея трэцяя.

(*Саля прыбраная па панску: направа - канапа, а прад ей—другі стол, накрыты вялікім, аж да самай зямлі, узорыстым настольнікам; з левага боку і у глыбі—дзьверы*).

**Зьява І-я.**

*Адэля* (адна).

Адэля. (*Выходзіць у задумі з баковых дзьвярэй і, крыху пачакаушы, кажа*): О, салодкія, залатыя сны маладога уяуленьня! Як хутка вынамяцелі... Сенейка мне наказуюць паважна глядзець на жыцце. (*думае*) Дачушка мая, ты скончыла ужо восемнанцаць гадоу, — час ужо табе падумаць аб тым, да чаго створана кожная кабета. Я выбрау табе мужа. Чалавек гэта хоць і ні малады, але сталы, багаты, а што найважней — першы гаспадар. Мне здаецца, што пад яго апекай дарога твайго жыцця будзе слацца кветкамі... Так казау мне бацька. Дагадваюся аб кім ен думае—аб Сабковічу: той другі ужо дзень тутака гасьціцца. (*малая пауза*). Гэтакім парадкам без мяне і маей згоды на гэта распараджаюцца маей будучынай... (*Думае, а посьля топнуушы нагой*). Не! Так ні будзе... Мае бацька уласьць нада мной, але мусіць ні захоча быць маім тыранам і змушаць мяне выйсьці за нінавістнаго мне чалавека. Ах,—гэты Сабковіч!.. Глядзець на яго ні магу. (*паказваючы на сэрцо*). Нешта тамака гаворыць, што з ім я ніколі ні магла бы быць шчасьлівою. Але, калі бацька захоча мяне змусіць, што я зраблю нішчасьлівая?! Каб жаш хаця прыехау гэты Стась, то б я з ім параілася. (*думае*). Фі, мне нівыпадае яго так называць, —ен для мяне цяперака пан Станіслау. (*пауза*). Мілы Божэнька! Як цяперака падумаю сябе—якая я была дагэтуль шчасьлівая. Бацькі мяне галубілі і нават гэтым самым псавалі: цэлы сьвет так усьміхауся мне. Стась... (*аглянулася*) хачу казаць—пан Станіслау,—с самаго маленства, каждую хвілю, на каждым кроку, у кожным наймяньшым навет выпадку, быу такі шчыры мой прыяцель. О, добра я памятую усю сваю мінуушчыну.

Помню дзяучынкай быушы малою,
Калі дзіцячы думкі спавала,
Стаська свавольны бегау са мною,
З ім я дурэла, у цацкі гуляла.
Ах, іншлі нам сьветла дні тыя.
Думкі іншчэ помняць іх маладыя.
Як ужо дзесяць годзікау мінуло,
Стаська жаніх твой,—бацькі казалі;
Нейкая у сэрцы радасьць кіпела,
Твар чырванеуся, вочы палалі,
Люба было нам. Я яго звонка
Клікала мужам, ен мяне жонкай.
Як лет пяснанцаць зьбегло, другія
Сьціспулі думкі сэрца гулянне,
Ужо у ім хаценьня новае ные.
Клічу пясьмела Стася ужо: пане.
Ні заву мужам, хоць сэрцо хоча,
Бо розум іншы і стыд дзявочы...

(*Хвіліну падумаушы, тупае нагой і кажа*). Паскудны Стаська! Калісьці штодзенна бывау у Парэччы; адну хвіліну ні мог абыйсьціся без мяне, а цяперака, калі ен найбольш мне патрэбны, як у вяду кануу. Ужо трэцці дзень як ні прыяжджае. (*У пачатку гэтаго манальогу Станіслау Зацнеускі, увыйшоушы ціханька, крадзецца, а потым патэтычна гаворыць. Адэля пры першым слові Станіслава, спудзіушыся, ускрыківає: «Ах!»*)

**Зьява ІІ-я.**

*Станіслау і Адэля.*

Станіслау. Як дух выклікаушы, стаю прад маей паняй і стаю страшэнна замаркочаны.

Адэля. Чаму ж гэта?

Станіслау. Што гэта пані пытаецца? Ці Сабковіч ні госьціць у вас і ці пані ні абяцала яму сваей рукі?

Адэля. Праўда, бацька наладжывае гэта, але што пану да гэтаго?

Станіслау. Пані мяне пытаецца аб гэтым... Пані, с каторою з малку аж да сягодня мы прабегалі рука аб руку, шануючы сваіго жыцця так, што ні адна калючка наймяньшай нязгоднасьці ні зраніла нашаго сэрца.

Адэля. Дзеля таго, што пан стараўся, каб я гэтых калючак ні зазнала; але да чаго кіруецца уся гэта гутарка?

Станіслау. Адэля,—выбачайце,—панна Адэля,—ці ж з маіх паступкау, з маіх вачэй ты ні вычытала таго, як ты дарага майму сэрцу? Я жыць ні магу без пані; пры мысьлі, што магу страціць цябе—шалею. О, ты кінула на мяне страшныя чары.

*(Пяецца так, як «Кветы» Ст. Манюшкі).*

Адэлька анелак,—ты сонцо, ты кветка!
Зрачыла мяне ты паглядам
І сэрцо узяла мне, як колас с палетка,
Спакой мой забіла, як зводам.
На яве абраз твой у думках квяціцца,
І сон мне абраз твой салодзе,
Майго адчуваньня і дум ты царыца,
Дух твой ад мяне ні адходзе.
І воблік анельскі, і погляд анельскі,
Анельска душа твая пэуна.
Тваіх ні зьлічу усіх аздоб я ніземскіх,
Ты сэрца майго каралеуна.
Як бура душы маей, сум мне нагоне,
Верх людзкой твая мусіць сіла,
Бо голас твой шчыры вяселасьцю звоне,
Пагоду у душу мне лье міла.

Адэля. Ах, чаму ж так позна, Станіслау, адкрываеш мне сваю душу?!

Станіслау. Пані Адэльця, ты магла навучыцца, з маленства ідучы бок о бок са мною, чытаць у маім сэрцы. Ці ж мог я прасіць тваей рукі, ні упарадкаваушы сваіх дзел, запутанных у часі маленства маімі апекунамі? Ці мог я думаць аб тым, каб увясьці у клетку птушачку, ні устроіушысь так, каб гэта нявола, канечная у грамадзянскім жыцці, была для яе раем? Мой гонар і пашана, якую я маю для пані і бацькоу пані, ні пазвалялі мне да часу ніпакоіць нявіннае сэрцо тайным каханнем. Я пастанавіу, што як толькі нізалежна устроюся, выліць прад паняй тое, што чую і, адтрымаушы пазваленне пані, прасіць у бацькоу вашай рукі, так патрэбнай для майго шчасьця. Адзін раз толькі—ах!—залатымі літэрамі запісана гэтая хвіліна у маім сэрцы. Пані тагды кончыла пятнанцаць гадоу. Прыехаушы з унівэрсытэту, знайшоу я вас над сшыткам занятою чыстапісаннем; у пакоі нікога ні было. Я, зможаны магнэтычным узглядам пані, забыуся і адкрыу сваю душу...О, памятна для мяне гэта салодкая і найсшчасьлівейшая хвіліна у маім жыцці!

Як пытау цябе галубка,
Ці успадобу я табе;
Стыду сьвет убачыу з губкау,
Мой анелак,—так ці не?
Папрасіу: скажы жычліва,

Які ж прыгавор быу твой?
О, судзьдзя мой міласьціві!
«Так,—шапнула,—любы мой».
Долі сам свасй ні верыу
І маліу ізноу цябе,
Каб ты перкам на паперы
Напісала «так ці не».
Ну, і стау шчасьліу я дужа,
Ужо у раю я на мяжы:
«Так» з пад перка вышло,—дружэ,
«Так» сягоння мне скажы.

(*Кажа:*) Як пані думае, што я зрабіу с тою паперкаю, на каторай твая ручка напісала такі дарагі для мяне прыгавор?

Адэля. Ты яго, пэуна, падзер.

Станіслау. (*вымаючы мэдальон з запазухі*). Абмылілася ты. У золато яго аправіу і заусягды нашу яго пры сэрцы і нават магу упэуніць, што гэта мілая для мяне памятка пойдзе са мною у магілу.

Адэля. (выцягівае да яго абедзьве рукі). О, мой даражэнькі Стасю, які ты добры, шляхэтны!

Станіслау. Значыцца ты мяне любіш?

Адэля. (наіуна) Здаецца... але найлепш сам асудзі, дружэ, с таго, што у душы маей робіць кожвая твая бытнасьць у нас.

(*Романс.*)

У садочку цьвітучым па сьцежачках польнай
Пахучай травіцай засланых,
Я з малку дзен с Стасем гуляла свавольна,
На воку бацькоу мілаваных.
Стась міла забавіць патрапіу зауседы:
Ці птушку з гнезда мне дастане,
Ці кветак нарве мне, ці ягад з гароду,
Чым будзь асалодзіць гулянне.
Як посьля навукам ен стау аддавацца,
Яму у сэрцы удзячнасьць хавала.
Бывала, як госьці пачнуць к нам зьбірацца,
Я толькі яго сустрэчала.
Часіну ту помню, што успомніу сягоння,—
Глыбока мне у сэрцы засела.
І страх нейкі с пары той адвагу проч гоне:
Стаюся пры Стасю вісьмелай.
Сягоння я думкай к яму далетаю,
Душа к яму рвецца, як птушка.
Абняць за абнянне ахвоты шмат маю:
Ен верны у горы мой служка.
Як гляну на Стася, я уся шчырванею;
Як з ім гавару—уся трасуся,
Трапечацца сэрцо, душа прамянее,
К яму уздыханнем нясуся.

(*Кажа*). Дык вось сам асудзі, дружэ, ці гэта каханне, ці можа толькі прыязнь

Станіслау. Дзякую табе, анелчыку даражэнькі, за шчырае прызнанне твайго нявіннаго сэрцайка. Калі Бог дасьць споунiцца нашым найгарачэйшым жаданням і злучыць нас назауседы, тады пасьвячу усе свае жыцце на тое, каб зрабіць цябе шчасьліваю.

Адэля. Але як жаш мы пазбудземся гэтаго Сабковіча?

Станіслау. Супакойся, даражэнькая! Хаця я ні быу пэуны свайго шчасьця, усе ж такі, пачуушы у нашым куце аб тым, з якою мэтай гэты зладзюга прыехау да вас,—асабліва, што і ен сам, німа ведама чаму, усюды гаворыць аб сваіх плянах, ні адкладаючы паехау да маршалка Пачціускаго—прызнауся яму, што хачу жаніцца с табой і казау аб залетах гэтаго інфаміса Сабковіча. Маршалак пажлянеу ад злосьці, даведаушыся, што яго прыяцель, каторы хваліцца, што адразу пазнае чалавека і чаго ен варт, так страшэнна абмыліуся і ні толькі прыймае у сябе чалавека, каторому ні можа быць мейсца сярод справядлівых людзей, але нават абяцуе аддаць за яго сваю дачку. Ен добра знае Сабковіча, каторы служыу за пісара у яго сваякоу Суліkоускіх і добра іх абскубау. Гэты першы яго крок на сьвеці быу першым і самым глауным фундамэнтам яго багацця, якім ен цяперака так хваліцца, а каторае ен здабыу падобным спосабам. Маршалак паслау мяне папераздзіць, каб пані, да яго прыезду, барані Бог, ні зрабіла ні якога рашучаго кроку. Ні трэба было мяне падганяць, ускочыу на сівака,—а мой арабчык як бы згадау, што мне пільна, пусьціуся з ветрамі на выперадкі. Праз ні поуных сорак пяць мінут я быу ужо у хвортк і мілаго для мяне с памятак вашаго саду; я пацалавау свайго коніка, каб падзякаваць яму і прывязау яго да плоту, а сам ціхінька, каб ніхто ні згледзіу мяне, як вуж шмыгнуу да дому і ось стаю прад паняй. Толькі жэужык Адольфак, каторы у садзі сярод агрэсту шукау птушачых гнездау, спаткауся са мной, але ен наш сябрук,—нівавідзіць Сабковіча. Кажа, што як згледзіць яго, дык яму прыпамінаецца слауны начны Парыжскі герой, Картуш, біаграфію катораго ен нідауна чытау. Я паставіу гэтаго хлопца, каб пільнавау і сказау мне, калі бацька с Сабковічам будзе вертацца с прагляду гаспадаркі. Дык вось трэба крацацца, каб як найхутчэй выкурыць адсюль гэтаго зладзюгу. (*Выймае с кішэні зложаную паперу*). Гэта, даражэнькая Адэльця, песянька, каторую засьпевай як колячы, бытцым вучучыся, тады, калі Сабковіч будзе адзін у гэтым пакоі. Толькі голасна і выразна, каб ен пачуу; калі ен мае хоць крыху розуму, дык ураз жа павінен уцячы.

**Зьява III-я.**

*Тыя самыя і Адольфак.*

Адольфак. (*убегшы*) Бацька с Картушом вертаюцца, ужо на ганку. Уцякай, пане Станіславе, у гэтыя дзьверы, бо у тых можаш спатканца.

Станіслау. Памятай, Адзя, каб ні доуга тутака бацька быу с Сабковічам і як кольвечы знайдзі прычыну, каб яго выклікаць адгэтуль.

Адольфак. Будзь спакойны; уцякай. (*Станіслау пайшоу*).

Адэля. Адзя добры хлопчык, ні кажы так наперад, бо можаш папсаваць усе нашыя пляны. Хадзем. Я дам табе канфітур

Адольфак. Ого, ці я баба, каб ні мог датрымаць сэкрэту? Хітрая ты, мая сястрычка... (*пайшлі*).

**Зьява VI-ая.**

*Судзьдзя Сакальніцкі і Сабковіч.*

Судзьдзя. Так, пане Антоні, ведаю, што ні шукаеш пасагу, але я хачу быць акуратным і дзеля таго ураз па шлюбе адрахую табе дзесяць тысячак банковымі білетамі; далажыушы іх да свайго капіталу, зможаце купіць добры маентак.

Сабковіч. Гэта ужо панская справа, а я, у свой чарод, магу упэуніць дарагога судзьдзю, што ні ганюся за капіталам; глаунае мае жаданне быць панскім сынам і мужам шаноунай дачкі вашай.

Судзьдзя. Веру, веру пане Антоні! О, я мігам патраплю пазнаць чалавека,—ні здарма завуся Сакальніцкім. Я адразу пазнау, што ты справедлівы чалавек.

**Зьява V-я.**

*Тыя самыя і Адольфак.*

Адольфак. Тата, аліндор чакае у габінэці на тату; кажа, што мае пільны інтэрас.

Судзьдзя. Іду. Выбачайце, пане Антоні, што я мушу цябе тут аднаго пакінуць, але ураз грышлю табе мільшую для цябе асобу,—ні змаркоцішся. Пайдзі, Адзя, да сястры і скажы ей, каб прышла да дарагога гасьця. (*пайшоу*)

Адольфак. Можа сястра ураз ні здалее прыйсьці сюды: ей прыслалі якуюсь [illegible]

ўраз пан пачуеш як будзе сьпеваць. (*выбегае сьмяючыся*).

**Зьява VI-я.**

*Сабковіч* (адзін)

Сабковіч. Дык што... Стары дурань думае, што яго дачка мне да упадобы. О, прайшлі ужо тыя часы, калі хлопцы за адзін узгляд красоткі гатовы былі скочыць у агонь, у воду. Дык што... У цяперашніх часох усе залежыць ад грошай. Праўда, панна Адэля і пекная і разумная дзяўчына, дык што... каб ні мела зьвінячай прыманкі, то напэўна я нават і ніпадумау бы, каб жаніцца з ею. І яна, мне здаецца, так сама, дык што... родная дачка Эвы. Ведаючы ад людзей, што я багаты, натта мусіць хоча выйсьці за мяне замуж і, што больш, як пэўна, любіць мяне, галубка. Дык што... Ось, і прачуванні сястры. О, я хаця і ні лізнуу кніжнай эдукацыі, дык што... але згадау сваім дурным розумам, што грошы увядуць мяне у вышэйшыя сфэры, дык што... (*чутно, як нехта пачынае іграць на фортапьяні*) Ось, як уважаю, яна хоча мяне забавіць музыкай, дык што... для мяне больш прыемнасьці робіць шуршанне банкавых білетау дарагога бацькі, як ігра яго дачкі. Ціха, нешта пяе, дык што... паслухаем. (*за кулісамі чуцен сьпеу часта прэрываны, як бы хто вучыуся*).

Адэля. (*за сьцяной*).

У чарадзейскім нашым коле
Укаранілося гуголле.
Каб ні земле, наша ніва
Каласілася б шчасьліва.
Часта між людзьмі бывае,
Праўда у тых, хто грошы мае,—
Бразьне вошуст кішанею,
Гнецца усе прад ім лазою.

Сабковіч. Дык што... Ці ж ні добра я мяркую?!

Адэля. (*далей*).

Есьць тут пан с паноу Сабковіч,
Што усе дражнюць «дарабковіч».

(*пауза*)

Сабковіч. Што, што? Аба мне пяе.—хітрая, дэлікатная: сьпеваючы, хоча выказаць тое, што чуецца. Глядзіце, трэба ж гэта! Паслухаем, што далей будзе.

Адэля. Свінапас быу змалку летау,
Седні дзьмецца, як цар сьвета...

Сабковіч. Што, што?... О!.. (*атарапеушы*).

Адэля. Скуль жа пыха у гэтай шэльмы?
Вота ж верыць у грошы вельмі,
Бо на службе пры палацы
Доугіх рук ні жалеу працы.

Сабковіч. І гэта нават! Дык што...

Адэля. На зладзейскай ехау спасьці,
Краў, што можна было украсьці:
Срэбро, медзь, нават рамение,—
Усе у свае сьпіхау кішэні.

Сабковіч. Скуль жа-ж, да чорта, яна аб гэтым знае?.. (*зусім зьбіты с панталыку, слухае далей*).

Адэля. Боскіх прауд забыушы дбаці,
Як той Крэз сабрау багацце,
Седні балі выпрауляе,
Каб падхлебнікау мець зграю.

Сабковіч. Гэтэ інтрыга нідапечанага акадэміка, дык што... Нічога ні зробяць. Калі бацька на маей старане, пастаулю на сваем. Легка растлумачу, што гэта інтрыга, да каторай, дык што... належыць і яго дачка.

Адэля. Есьць жа людзі, што хоць сорам,
Торг вядуць сваім ганорам;
Нават, як да пня апенькі,
К «шаршню» ціснуцца паненкі.
Стуль і прыказка на гэта:
Прауду выгналі край сьвета.
Нелюдзь з золатам без бою
Верх бярэ над праватою.

Сабковіч. Так, паненачка, так, пане акадэмік! Вы, як я бачу, згаварыліся, каб выжыць мяне з гэтага дому, але страшэнне вы абмыліліся. Бацька мае да мяне слабасьць, я выдумаю казку, бытцым пан акадэмік баламуціць яго дачку і, хочучы маей адправы, кідае на мяне усе-якіе бруды. О, пачакайце, галубочкі, ні удасца вам тое, што вы хочаце зрабіць.

**Зьява VII-я**

*Сабковіч і Адольфак.*

Адольфак. (*убегшы*) Пан маршалак Пачціускі с панам Зацнеускім толькі што прыехалі. Пан Станіслау на сваім арабчыку. Які гэта пекны конік, проста цацачка...

Сабковіч. (*страшэнне перапуджаны*) Што, што, што? Маршалак Пачціускі? Дык што... гдзе ен?

Адольфак. На ганку з бацькай вітаюцца; але пан маршалак на хвілінку толькі заехау дзеля таго, што мае пільны інтэрас у горадзі, а міма праеджаючы, як ен казау, ні выпадае ні заехаць, каб даведацца а здароуьі дарагога суседа. Нават коней ні пазволіу адпрагчы, як ні прасіу яго бацька.

Сабковіч. О, дау бы ж то Бог, каб ен, дык што... як найхутчэй выехау адсюль (*на голас*) Слухай, Адольфак! Дык што... як тутака можна выйсьці у сад, каб ні спаткацца з новым госьцем? Дык што... бачыш, мой даражэнькі, я ні хацеу бы спаткацца з маршалкам, ен гневаецца на мяне за тое, што я так дауно ні быу у яго. (*у старану*) Да чорта, —ен бы мяне выкінуу за карк. (*на голас*) дык што...

Адольфак. У сад адзін выхад праз глауныя дзьверы і ганак, гдзе цяперака тата гутарыць з маршалкам; другі праз пакоі Адэлькі, але цяперака тудой прайсьці ні можна: запранаецца. Бяда нівякікая, што маршалак крыху прыстыдзіць папа за гэта, пан паабецаеш нізадоуга быць у яго і будзе згода. Але чутна ужо іх гутарка: бацька, мусіць, вядзе госьця сюды. Пайду пэдганю сястру, каб хутчэй сюды выйшла. (*выбегае*)

**Зьява VIII-я**

*Сабковіч* (адзін).

Сабковіч. Ось, папауся, дык што... Маршалак такі злы на мяне за Сулікоускіх і Валовічыху, што, пабачыушы мяне тутака, гатоу зрабіць мне вялікую ніпрыемнасьць і настроіць проці мяне судзьдзю, дык што... Ен заехау толькі на хвіліну, (*бегае па пакоі, заглядаючы у ва усе куткі*). Каб знайсьці тутака мейсцо, каб схавацца? дык што... Праз хвіліну судзьдзя ні пасьпеу бы параіцца з маршалкам аб пастанові, дык што... сваей дачкі. (*у гэтым мейсцы Адольфак падглядывае праз бакавыя дзьверы, што робіць Сабковіч*). Як на бяду німа падхадзячаго мейсца, каб схавацца. Ах, дык што... схаваюся пад стол: даугі настольнік патрапіць схаваць мяне ад маршалка. (лезе пад стол і нацягвае крыху настольнік, каб закрыць сябе, але ні ад публікі: гэтак схаваушыся, высунуу галаву с-пад настольніка і кажа): Дык што... чартоускі ніпрыемнае палажэнне залётніка! Каб жа ж хоць паненка ацаніць гэта патрапіла. Але ціха, нехта ідзе: буду сядзець спакойна і паузіраюся, што тутака будзе рабіцца. (хаваецца).

**Зьява IX-я**

*Адольфак і Сабковіч.*

Адольфак. (увайшоушы з дубчыкам у руках, кажа у старану): Ага, Картуш, папауся у мышалоуку! Пачакай, памучу я цябе добра тутака. (гамоніць) Трэзор, праклятая сабака! Куды ж яна падзелася? Трэба яго накарміць дзеля таго, што ураз пойдзем на цецярукоу с панам Станіславам. Усюдах набегауся, шукаючы яго. Трэзор, Трэзор! Мусіць улез пад стол і сьпіць тамака спакойна. (штурхаючы дубчыкам пад настольнікам) Трэзор, вылазь хутчэй!

Сабковіч. (Выглядаючы с-пад стала у старану

ні ведаеш, што прымаеш у сваім доме часта натта нават дзяцюка, каторы хацеу бы аддаць усе свае жыцце, каб ашчасьлівіць тваю дачку, і на каторага і яна зманку глядзіць. натта прыхільна.

Адэля. (застыдзіушыся, боязна) Пане маршалак..

Судзьдзя. Хто гэта можа быць? Хіба пан Станіслау? Чаму ж тады раней ні адкрыу мне сваіх думак? Ні было б гэтых нішчасьлівых залетау.

Маршалак. Трэба быць сватам. Так, дарагі судзьдзя,—Станіслау любіць тваю дачку; дагэтуль нічога ні казау таму, што хацеу упарадкаваць свае справы і прыбраць гняздзечко для сваго найвялікшаго скарбу. Быць можа адкладывау бы і яшчэ, але сеняшние здарэнне змусіло яго пасьпяшыцца з апошнім крокам. Твая дачка толькі сенейка даведалася, як ен яе любіць. Сенейка ен раскрыу прад ей свае сэрцо і, дастаушы паэваленне, просіць у цабе яе рукі,—прасіу мяне сватаць. Маладыя, пападайдзіце да бацькі і прасіце на каленях пазваленйя і блогаслауленния. (Станіслау стау на калені прад Сакальніцкім, а Адэля, засароміушыся, мітрэжыцца). Панна Адэля, сьмела стань на калені с правай стараны і заглянь бацьку у вочы так, як глядзіш, калі хочаш яго збаламуціць. Магу упэуніць, што змякне, як воск і злучыць вашы рукі.

Адэля. (стаушы на калені) Дарагі татачка! Я люблю яго. (цалуе бацьку у руку, закрываючы гэтак вочы свае)

Судзьдзя. Ага, баламутка, а я ні мог дагадацца! Адгэтуль перастану верыць свайму сакаліному воку, а то, як відаць, з гадамі прытупілася. Ну, мае дзеткі, калі любіцесь, то хай Бог у небі, як бацька на зямлі, вас блогаславіць! Устаньце і дайце вас абняць.

Адэля. Татачка, даражэнькі, які ты добры!

Судзьдзя. Усе мы павінны падзякаваць пану маршалку.

Адольфак. Я так сама званіу на гэтае казанне і маю права, як брат блогаславіць вас. (патэтычна) Прыбліжся пара буркуючых галубкоу, хай і я вас блогаслауляю. (Падышоушых, с павагай блогаслауляіць)

Станіслау. Браціпка даражэнькі, ты так само шмат зрабіу для нашаго шчасьця,—чым мы можам выказаць табе сваю падзяку?

Адольфак. (са слезамі ціскае ім рукі) Любіце мяне так, як і я вас люблю. (наіуна да Станіслава) А паедзем сенейка на царкву?

Судзьдзя. Ну, дзякаваць Богу і дарагому маршалку, што залеты нашы сягодня добра скончыліся, хай жаж яны, як цяперака для мяне, так і для усіх бацькоу будуць навукай, што шукаючы для сваго дзяценка прыяцеля на усе жыцце,—павінны глауным чынам зьвярнуць увагу,—хавай Божа, ні на багацце, але на сэрцо, навуку і славу у людзей таго, хто хоча быць мужам дачкі.

Водэвіль:

Адэля. Каб канец сышоу шчасьліва,
Злое усе забудзьма жыва,
Шчасьце наша ні растае.

Станіслау. Віват! Жонку сабе маю.

Усе. Маем страху мы тыкеле,
(Хоць вам «біс» яго здамоча)
Ці нам публіка с фатэляу,
Што закінуць ні захоча!?

**Заслона.**

Канец.



# КРОНІКА.

**Курсы беларусазнауства.** Беларуская прасьветная субкамісія Менскае Меськае Рады адчыніла с 1-го красавіка (апрэля) Курсы Беларусазнаўства. Будуць чытацца: гісторыя Беларусі, географія Беларусі, Беларуская літаратура, Граматыка і інш..

Запіс на курсы адбываецца штодня у памешканню Беларускае Рады [Захараўск., 43, III-і паверх].

Курсы покі што безплатныя, лектары—за нагароду.

**Беларускі тэатр.** У «Беларускай Хатцэ» (Коньскі рынак) апошнім часам часта адбываюцца беларускія спэктаклі. Спэктаклі ставіць «Першае Т-во Беларускай драмы і камэдыі» пад кірауніцтвам і рэжысурай Ф. Ждановіча. На вялікодным тыдні [па нов. стылю] граліся: «Паўлінка», «Міхалка», «Пашыліся у дурні», «Хвароба у добрым здароўі»,—камэдыя на 3 дзеі Галубка і «Цётка вінавата» пераклад (?) Ф. Ждановіча. Апрач гэтаго маняцца паставіць: «Апошняе спатканне» Галубка, «Аза», «У бездоні» і т. д..

**Газэта «Беларускі Шлях»** Першы нумар штодзеннай газэты «Беларускі шлях» выйшаў 8-го сакавіка пад рэдактарствам П. Алексюка. Другі нумар газэты паказаўся, посьля двухтыднёваго перапынку, 25-го сакавіка с абвесткаю ад рэдакцыі, што «выдавецтво газэты «Беларускі Шлях» гр. П. Алексюком передано выдавецкаму т-ву «Заранка» у Менску. Рэдактарам з 2-го нумару становіцца гр. А. Прушынскі пры тых самых супрацоўніках». (г. Менск, Серпухоўск., 12).



# ДОПІСЫ.

**С. Хаценчыцы, Віл. губ. Віл. пав..** Заложаны нідаўнымі часамі хаценчыцкі селянскі коапэратыў ідзе вельмі добра. Апошні гадавы подлік даў 3000 руб. прыбытку. Стараннем нікаторых сябрукоў з гэтай сумы было адлічано 411 р. с капейкамі для культурна-прасьветных патрэб.

За гэтыя грошы маюць на мэці адкрыць бібліатэку-чытальню, у якую у першую чаргу купіць усе беларускія кніжкі, выпісаць усе беларускія газэты, а так само літаратуру у другіх мовах аб гаспадарцы і коапэрацыі. Памешканне пад гэтую бібліатэку дае п. Высоцкая, якая аддае безплатна цэлы дом у Хаценчыцах.

Маючы гэтае вялікае памешканне, можна будзе рабіць лекцыі і чытанні аб гаспадарцы, коапэрацыі, наогул—аб усім тым, што так патрэбна для нашаго селянства, а аб чым яно, на сваё горо, мала ведае.

На павялічэнне коштаў для культурна-прасьветных мэтаў, гурток сьвядомых беларусаў у хаценчыцах ладзіць на Вялікдзень [ст. стылю] беларускі тэатр.

*Казімір Сьветляк.*



Рэдактар Я. Лёсік.



Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Грынблята.